*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 46 (1457) 13 ЛІСТАПАДА 2019 г.**

## 30 гадоў адраджэння Уніі ў Беларусі

"Калі вы будзеце рабіць нешта з Богам, то гэтая справа будзе прасоўвацца, а калі без Бога, то гэтая справа загіне". Словы, якія сказаў святар, адзін з адраджэнцаў Беларускай Уніяцкай Царквы Ян Матусевіч.

Згадвалі добрыя абставіны, якія спрыялі адраджэнню Царквы 30 гадоў таму, пілігрымы з Беларусі ў санктуарыі абраза Маці Божай Барунскай у аднайменным мястэчку Ашмянскага раёна. Казанне ў рыма-каталіцкім храме падчас адмысловай літургіі сказаў апостальскі візітатар для беларусаў грэка-каталікоў Сяргей Гаек:




- Трыццаць год таму група моладзі, і не толькі моладзі, прыбыла сюды да айца Яна Матусевіча, які быў пробашчам гэтага санктуарыя. Мы лічым нашай гісторыяй, нашым кайрусам да айца Яна, які ўжо ў той час адважыўся на роднай мове вяшчаць Божае слова, падбадзёраны на самой справе сведчаннем і змаганнем айца Уладзіслава Чарняўскага.

Пілігрымы з розных парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы прыехалі ў Баруны з Менска, Маладзечна, Івацэвічаў, Гародні. Найдаўжэй да Барунаў даехаць гарадзенцам, бо Ашмяншчына - няблізкая. Кажа парах гарадзенскай парафіі Андрэй Крот:

- Гэта такое нашае духоўнае яднанне з братамі і сёстрамі з іншых парафій. Мы разам узгадваем тую важную падзею, пачаткі адраджэння нашай царквы, тых людзей, якія стаялі пры яе адраджэнні. Разам з тым мы знаходзімся ў святым для нас, грэка-каталікоў, месцы - у Барунскім касцёле, каля абраза Маці Божай Барунскай, бо гэта месца нам паказвае, што традыцыя грэка-каталіцкая сягае не толькі 90-х гадоў, але нашмат глыбей.



У Барунскім санктуарыі знаходзіцца цудоўная крыніца, ваду з якой узялі пілігрымы перад паездкай назад. Апрача Барунаў, некаторыя пілігрымы здолелі наведаць Гальшаны і Трабы. У Трабах яны пакланіліся і памаліліся за пяцёх загінулых рыма-каталіцкіх беларускіх святароў, якія былі закатаваныя і забітыя ці саветамі, ці гітлераўцамі на працягу 40-х гадоў мінулага стагоддзя.

*Якуб Сушчынскі,*
*Беларускае*
*Радыё Рацыя.*




## На малой радзіме Алеся Адамовіча за народныя грошы ўсталявалі першы ў Беларусі помнік класіку

*Бюст Алеся Адамовіча (1927-1994) паставілі ля глушанскага Дома культуры на вуліцы Кастрычніцкай, якую ў 1996 годзе пасялковы савет і мясцовыя жыхары хацелі перайменаваць у вуліцу Алеся Адамовіча. Улады тады ініцыятыву не ўхвалілі.*

*Праз 22 гады паставіць бюст пісьменніка пагадзіліся, але грошы на яго ахвяравала грамадскасць. Выраб і ўстаноўка абышліся ў 6,5 тысяч даляраў, якія сабралі ў 2018 і 2019 гадах. Аўтары бюста скульптары Генік Лойка і Яўген Білей. Ініцыяваў збор грошай жыхар Бабруйска Андрусь Архіпенка.*



9 лістапада ў Глушу, якая за 20 кіламетраў ад Бабруйска, на адкрыццё першага ў Беларусі помніка аўтару несавецкай "Вайны пад стрэхамі" сабраліся землякі Адамовіча, грамадскія актывісты з Бабруйска, Магілёва, Менска, а таксама кіраўнікі Бабруйскага райвыканкама. На ўрачыстасці была і дачка пісьменніка Наталля Адамовіч.

Наталля Аляксандраўна ля бюста расплакалася. У інтэрв'ю Свабодзе прызналася, што не верыла ў ажыццяўленне праекту.

- Гэта заслуга моладзі, якая сабрала грошы і дамаглася ўсталявання помніка, - кажа дачка пісьменніка. - Я дапамагала парадамі і фотаздымкамі. Я рада, што ёсць у нас такая моладзь. Можа, з ёй і да адкрыцця музея дойдзем. Сёлета 25 год, як няма майго таты, і так выйшла, што ў гэты год з'явіўся ў ягонай роднай Глушы ягоны бюст.

Увекавечыць памяць пра Алеся Адамовіча ўсталяваннем яго бюста жыхар Бабруйска Андрусь Архіпенка загарэўся два гады таму. Ён задаволены вынікамі працы сваёй ініцыятыўнай групы. Андрусь адзначае, што ажыццявіць задуманае без падтрымкі Глушанскага сельскага савета не ўдалося б. Паводле яго, нягледзячы на аднолькавыя працэдуры ўзгаднення, паставіць помнік у горадзе было б больш складана, паколькі ў ім існуюць грамадскія групы, да якіх улада ставіцца насцярожана. Андрусь спадзяецца, што са з'яўленнем помніка цікавасць да творчасці Алеся Адамовіча ўзрасце, а Глуша стане прыцягальнай для турыстаў.

- Я заўважыў такую тэндэнцыю, - кажа Андрусь, - што цяперашняе пакаленне мала ведае пра Алеся Адамовіча. А калі няма грамадскага запыту і цікавасці, то ўлада не будзе асабліва напружвацца, каб змяніць сітуацыю.

Прыехаў у Глушу перакладчык і грамадскі дзеяч Лявон Баршчэўскі. Ён кажа, што ўсталяванне бюста Адамовіча - важная падзея для беларускай культуры, бо помнікаў нацыянальным дзеячам не хапае.

- Васілю Быкаву, акрамя як каменя на магілках, помнікаў няма нагул, - нагадвае Лявон Баршчэўскі. - Помнікі нашым сапраўдным героям, апосталам нацыі рана ці позна з'явяцца. Яны будуць больш дасканалыя, паколькі цяпер магчымасці ўшанавання іншыя, чым былі калісьці.




*Старшыня Глушанскага сельскага савета Марыя Сушчанка, Наталля Адамовіч плача і ініцыятар усталявання бюста Аляксей Архіпенка*

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы Бабруйскага райвыканкама Галіна Чарнова лічыць, што лепшага месца для бюста Адамовіча, чым пляцоўка ля Дома культуры, у пасёлку цяжка адшукаць.

- Яно праглядаецца з усіх бакоў і прайсці, не звярнуўшы ўвагі на яго прыгажосць, нельга,- кажа яна, - таму я шчаслівая, што на ім стаіць гэты бюст.

Першапачаткова яго меркавалі паставіць ля будынка старой аптэкі, якая на той жа вуліцы, што і Дом культуры. Там збіраліся размясціць музей пісьменніка. Па словах Галіны Чарновай, пытанне пра стварэнне музея застаецца актуальным, але на дабрачынным рахунку, адкрытым у 2016 годзе, сабрана замала грошай, каб адрамантаваць аварыйны будынак. Паводле чыноўніцы, цяпер прапрацоўваецца варыянт размяшчэння ў Доме культуры экспазіцыі пра жыццё і творчасць Алеся Адамовіча.

Старшыня Глушанскага сельскага савета Марыя Сушчанка называе бюст Адамовіча - народным помнікам. Да яго адкрыцця рыхтаваліся амаль год. Яна перакананая, што з часам з'явіцца і музей Алеся Адамовіча ў Глушы.

- Для гэтага трэба ўсім прыкласці крыху больш намаганняў, - кажа яна. - Бюст Адамовіча - гэта пачатак у стварэнні музея "Вайны пад стрэхамі". Ён будзе не толькі пра Алеся Адамовіча, але і пра жыхароў, якія выжылі ў вайну.

У Глушы вуліца, якая вядзе да мясцовай школы, носіць імя Алеся Адамовіча.

У 2018 годзе ў Глушы з'явіўся арт-аб'ект "Прыпынак Адамовіча". На прыпынку грамадскага транспарту намаляваны партрэт пісьменніка і цытата з аповесці "Vixi".

*Радыё Свабода.*

## Спеў-заклік кіруюць да суайчыннікаў святар-бард і семінарысты з Гародні

*Семінарысты міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гародні запісалі спеў, напісаны ксяндзом Тадэвушам Крыштопікам, у якім заклікаюць суайчыннікаў да духоўнага абуджэння і ўсведамлення сваёй місіі ў свеце.*

Французскі пісьменнік Віктор Гюго казаў, што музыка перадае тое, чаго мы не можам вымавіць вуснамі, і тое, аб чым немагчыма маўчаць.

«Беларусь, Беларусь!» — музычны твор, які напісаў каталіцкі святар Тадэвуш Крыштопік.



Выконвючы яго, студэнты Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гародні разам з аўтарам хацелі выказаць невымоўную ўдзячнасць Богу і сваім продкам за атрыманую хрысціянскую спадчыну, за «край Богам даны нам сярод народаў».

Эпіграфам да твора сталі словы Езуса з Евангелля паводле Мацвея: *«Ерузалем, Ерузалем! <...> Колькі разоў Я хацеў сабраць дзяцей тваіх, як птушка збірае пад крыламі птушанят сваіх...» (пар. Мц 23, 37).*

«Беларусь, Беларусь!» — гэта спеў-заклік, які схіляе чалавека нанава адкрыць уласную тоеснасць і адчуванне прыналежнасці да лёсу сваёй краіны.

«Беларусь, Беларусь!» — гэта спеў-гімн, прасякнуты глыбокім прагненнем захаваць веру ў сэрцах і вернасць Евангеллю, нягледзячы на праявы атэізму, маральнай разбэшчанасці, скажэння непахісных асноваў хрысціянскага светапогляду ў сучасным свеце.

Семінарысты прапануюць спяваць яго разам, каб абудзіць суайчыннікаў ад духоўнага сну і прымусіць іх задумацца пра вечныя каштоўнасці.

***Яўген Амасёнак,***
*Catholic.by*
*Ілюстрацыйнае фота: visit-belarus.com.*

# Фігавы лісток апазіцыі

Чым болей беларусы ігнаруюць выбары, тым гучней галасы апазіцыі з заклікам удзельнічаць у выбарах. Розніца паміж апазіцыяй і ўладай толькі ў фармулёўках. Вось і сёлета кіраўнік ЦВК Лідзія Ярмошына клянецца-божыцца, што кліча на сапраўдныя выбары ў сапраўдны заканадаўчы орган улады. Апазіцыя заклік да ўдзелу ў "псеўдавыбарах у псеўдапарламент" прыкрывае фігавым лістком, на якім напісана *"палітычная кампанія пад назвай "выбары", "электаральны працэс"* і да т.п.

**"Ты, улада, нас не бойся - цябе мы не зачэпім"**. Гэты жарт беларускіх апазіцыянераў пра самix сябе даўно не смешны. Ужо пяты раз апазіцыя ўдзельнічае ў выбарах у Палату прадстаўнікоў і, такім чынам, самім фактам свайго ўдзелу зазывае грамадзян Беларусі на выбарчыя ўчасткі. Поўная згода і лагода з уладаю! Заўважыў заканамернасць. Актыўнасць выбаршчыкаў, іх вера ў чэснасць выбараў, вера ў выбары як дэмакратычны інстыту абрання ўлады стабільна зменшаецца, а галасы зазывалаў ад апазіцыі ўдзельнічаць у такіх выбарах стабільна ўзмацняюцца. Пашыраецца і пералік аргументаў на карысць удзелу ў выбарах.

**Мантра апазіцыі**

Галоўная мантра апазіцыі застаецца нязменнай: у выбарах трэба ўдзельнічаць, бо людзі ходзяць на выбары, бо трэба ж нешта рабіць. *"Сапраўдных выбараў, як дэмакратычнага механізму абрання органаў улады, няма. Улада ладзіць чарговы спектакль, фарс, палітычную кампанію пад назвай "выбары". Мы, апазіцыя, удзельнічаем у гэтым спектаклі пад назвай "выбары", вылучаем сваіх кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, каб паказаць, даказаць беларускаму грамадству, міжнароднай супольнасці..."* .

Што сваім удзелам у "псеўдавыбарах у псеўдапарламент" апазіцыя хоча паказаць і даказаць?! Тут у шэрагах зазывалаў шматгалоссе і нават рознагалоссе, але, паўтаруся, галоўная мантра застаецца нязменнай: *у выбарах трэба ўдзельнічаць, бо людзі ходзяць на выбары, бо трэба ж нешта рабіць...* .

**Табу апазіцыі**

Апазіцыя замоўчвае, што ў 1999-2000 гадах яна салідарна не ўдзельнічала ў выбарах у мясцовыя Саветы і Палату прадстаўнікоў, не вылучала сваіх сяброў кандыдатамі ў дэпутаты (за выключэннем старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалая Статкевіча і часткі сяброў гэтай партыі, якія ў 2000 годзе ўдзельнічалі ў выбарах у Палату), што міжнародныя інстытуты (ПАСЕ, ЕС і інш.) не прызналі выбары ў мясцовыя Саветы 4 красавіка 1999 года і выбары ў Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка 2000 года дэмакратычнымі і, тым болей, не прызналі легітымнасць, законнасць, паўнамоцнасць гэтых органаў улады.

Апазіцыя замоўчвае свае ўласныя выказванні, напрыклад, таго ж Анатоля Лябедзькі: *"Што да рэгіянальных выбараў. Таких у 1999 годзе ў Беларусі не прадбачыцца. У красавіку адбудуцца псеўдавыбары, па выніках якіх прэзідэнцкая "вертыкаль" адбярэ, а прэзідэнт зацвердзіць так званых дэпутатаў... усе дэмакратычныя партыі заявілі пра свой няўдзел у імітацыі выбараў. Мы заклікаем АБСЕ не пасылаць сваіх назіральнікаў у красавіку гэтага года ў Беларусь для ўдзелу ў кантролю за ходам мерапрыемстваў, якія называюцца выбарамі ў мясцовыя Саветы дэпутатаў, каб не легітымізаваць іх вынікі"* (з выступлення А. Лябедзькі на пасяджэнні Пастаяннага камітэта Парламенцкай Асамблеі АБСЕ у студзені 1999 года); *"АГП заклікае байкатаваць выбары ў лукашэнкаўскі "парламент". Чаму? Нам патрэбна ўлада не для таго, каб прысмактацца да кармушкі, а каб штосьці перайначыць у краіне. Палата прадстаўнікоў по статусу свайму нічога перайначыць не можа, гэта ўзор палітычнай імпатэнцыі"* (з заявы старшыні АГП А. Лябедзькі ў жніўні 2000 года).

Апазіцыя замоўчвае, што ў 2000 годзе яна, пры падтрымцы АБСЕ (Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе), сфармулявала наступныя ўмовы свайго ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў і прызнання іх міжнароднай супольнасцю:

1. Спыненне праследу людзей па палітычных матывах, вызваленне палітычных вязняў, высвятленне лёсу зніклых людзей, гарантыя свабоды шэсцяў і мітынгаў.

2. Ніхто, акрамя парламента, не можа прымаць законы, абавязковыя для выканання ўсімі, і ажыццяўляць кантроль за выкананнем дзяржаўнага бюджэту.

3. Палітычныя партыі і грамадскія рухі павінны мець гарантаваны бесцэнзурны доступ да дзяржаўных радыё і тэлебачання.

4. Выбарчыя камісіі павінны быць незалежнымі ад улады і складацца з прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

**Метамарфоза апазіцыі**

Улады не выканалі ніводнай з вышэйпералічаных чатырох умоў. Аднак і згаданы тут Лябедзька, і ўся аб'яднаная дэмакратычная апазіцыя, акрамя партыі КХП-БНФ на чале з Зянонам Пазьняком, раптам перамянілі сваю пазіцыю на супрацьлеглую і, гэтаксама, як і Статкевіч, удзельнічалі ў мясцовых выбарах у 2003 годзе, а потым і ў выбарах у Палату прадстаўнікоў у 2004 годзе.

Апазіцыя дэ-факта адцуралася сваіх умоў удзелу ў выбарах, але яе лідары і па сённяшні дзень робяць выгляд, што нічога не здарылася, і па сёння чатыры ўмовы ўдзелу ў выбарах фармальна застаюцца ў сіле.

Наступствы адрачэння ад уласна сфармуляваных умоваў удзелу ў выбарах, ды яшчэ ў такой форме (фігура замоўчвання), былі катастафічнымі.

Невытлумачальны, па замоўчванні, пераход ад байкоту да ўдзелу ў выбарах, перамена, здавалася б, прынцыповых пазіцый, прывялі да дэмаралізацыі актыву апазіцыі, да дыскрэдытацыі апазіцыі ў вачах дэмакратычна настроеных грамадзян. Шараговыя актывісты перасталі верыць сваім лідарам. У 2003 годзе яны не адгукнуліся на заклік "усе на выбары", паўсюдна і масава адмовіліся балатавацца кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых Саветаў. Калі ў чэрвені 1995 годза на выбары ў Слонімскі гарсавет (яўка выбаршчыкаў - 40,5%) партыя БНФ выставіла 16 кандыдатаў, у 1999 годзе, падчас байкоту, - ніводнага, дык у 2003 годзе толькі аднаго. Старшыня Слонімскай суполкі БНФ Іван Бедка ў студзені 2003 года публічна наракаў: *"У нас спачатку было сем кандыдатаў, якія далі згоду балатавацца. Але пасля шэсць адмовіліся. Хто палічыў, што ўдзел у выбарах не мае сэнсу, каго запалохалі стратай працы"*. Не зразумелі і не падтрымалі такіх паводзін апазіцыі і беспартыйныя. Дзякуючы ў тым ліку і іх актыўнасці ў чэрвені 1995 года кандытатамі ў дэпутаты Слонімскага гарсавета былі зарэгістраваны 86 чалавек. У 2003 годзе прэтэндэнтаў было 47, зарэгістравалі 37 - 1,06 кандыдата на адну выбарчую акругу. Людзі здаровага сэнсу, якія паважаюць сябе і выбаршчыкаў, не захацелі і па сённяшні не хочуць удзельнічаць у няпэўных, падазроных мерапрыемствах.

Паняверка і пасіўнасць апазіцыйных актывістаў, дыскрэдытацыя апазіцыі, дээрыентацыя выбаршчыкаў і, адпаведна, умацаванне дзейнай улады - вось вынік, лічу, ганебнай, метамарфозы апазіцыі. Ад такога ўдару дэмакратычная супольнасць Беларусі не акрыяла і па сёння.

**У чарговы раз на тыя ж граблі**

Выбаршчык, які недасведчаны ў тонкасцях апазіцыйнай палітыкі, але які прагне дэмакратычных пераменаў, які дзеля такіх пераменаў гатовы ўнесці сваю лепту, ужо шмат год задаецца пытаннем: "Каторы раз удзельнічаем, паказваем, даказваем! Далей што? Яшчэ колькі год, дзесяцігоддзяў будзем хадзіць па кругу?".

Ненармальнасць свайго ўдзелу ў "псеўдавыбарах у псеўдапалату" разумеюць і цяперашнія апазіцыйныя актывісты. Прадстаўнік слонімскай суполкі партыі БНФ Віктар Марчык, які зараз балатуецца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, надоечы сказаў: *"Уладам выгадна, каб мы выстаўлялі свае кандыдатуры - дзякуючы нам, людзі прыйдуць на ўдзел"* ("Газета Слонімская", № 42, 17 кастрычніка 2019 г.). Але! Парадзелая, пастарэлая, стомленая апазіцыя, па закліку сваіх нястомных лідараў, сёлета зноў удзельнічае ў "псеўдавыбарах у псеўдапалату", каб... у пяты раз паказаць, даказаць, што Палата прадстаўнікоў - "узор палітычнай імпатэнцыі"?!

Нядзіўна, што вышэйназваны выбаршчык не верыць такой апазіцыі.

Магчыма, прычына імкнення апазіцыі ў чарговы раз наступіць на тыя ж самыя граблі, у чарговы раз падыграць уладзе ў ейных гульнях у дэмакратыю, хаваецца ў словах дэпутата Вярхоўнага Савета СССР 12-га склікання, былога першага намесніка старшыні Гомельскага гарсавета Віктара Карняенкі, які з'яўляецца прыхільнікам удзелу ў выбарах: *"Ёсць дзіцячыя спадзяванні, што адмова апазіцыі ад удзелу ўжо па факце будзе выклікаць пытанні ў грамадскасці і міжнародных інстытутаў. Хутчэй, наадварот. Нават тыя нешматлікія партнёры згубяць да Беларусі цікавасць, бо дапамагаць можна тым, хто нешта робіць"* ("Новы Час", № 38, 11 кастрычніка 2019 г.).

Партнёры - важкі аргумент. Анатоль Лябедзька, аднапартыец Карняенкі, васемнаццаць год кіраваў Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, нешта рабіў. У 2018 годзе старшынём АГП выбралі Васіля Палякова. Неўзабаве нешматлікія партнёры згубілі да партыі цікавасць. Палякоў падаў у адстаўку.

Мушу паўтарыць свае словы пятнаццацігадовай даўніны, сказаныя напярэдадні выбараў у Палату прадстаўнікоў у 2004 годзе: *"Тлумачэнне кшталту "трэба ж нешта рабіць" не вытрымлівае крытыкі. Па-першае, нельга нават штосьці вартае рабіць усялякім коштам, болей за тое - коштам дэвальвацыі сваіх прынцыпаў і рэпутацыі. Па-другое, лепш нічога не рабіць, калі немагчыма зрабіць тое, што трэба. Бо дзе гарантыя, што з гэтага "нешта" не будзе яшчэ большай шкоды"* ("Газета Слонімская", № 11, 11 сакавіка 2004 г.).

**Жыць у праўдзе**

Другое дзесяцігоддзе беларуская апазіцыя "ўдзельнічае", "паказвае", "даказвае" і, як бачна па ўсё большай актыўнасці сённяшніх зазывалаў, збіраецца і надалей гэтым займацца. Апазіцыя не ставіць перад сабою і грамадствам задачу зрынуць існы рэжым, каб потым правесці дэмакратычныя выбары. Не заклікаю да гвалту. Ёсць спосабы, метады, формы мірнага ціску на ўладу. Гэтым трэба займацца. Цяперашняя беларуская апазіцыя, калі яна хоча і надалей называць сябе і беларускай, і апазіцыяй, найперш мусіць зняць фігавы лісток, пакаяцца за тое, што некалі адцуралася ўласных умоў свайго ўдзелу ў выбарах і заявіць аб сваім няўдзеле ў "псеўдавыбарах у псеўдапарламент".

Што да шараговага дэмакратычна настроенага грамадзяніна, магчымасці якога значна меншыя, чым у згаданага Васіля Палякова ў ягоную бытнасць старшынём Аб'яднанай грамадзянскай партыі! Вацлаў Гавэл у сваім эсэ "Сіла бяссільных" заклікаў імкнуцца *"жыць у праўдзе"*. Паводле Гавэла, спроба чалавека *"жыць у праўдзе"* спачатку можа абмежавацца толькі тым, што *"пэўныя рэчы ён проста не робіць: ...не ходзіць на выбары, якія не лічыць выбарамі"*.

***Міхась ВАРАНЕЦ,***
*дэпутат Слонімскага гарсавета ў 1995-1999 гг, беспартыйны, былы сябар БСДП.*






# Рэпрэсаванаму пісьменніку Васілю Кавалю паставілі памятны знак у роднай вёсцы

Рэпрэсаванаму ў часы сталінскага тэрору пісьменніку Васілю Кавалю адкрылі 30 кастрычніка памятны знак у ягонай роднай вёсцы Сава, што ў Горацкім раёне на Магілёўшчыне. Ініцыявала мемарыял вясковая грамадскасць, яе падтрымаў сельскі савет.

Васіля Каваля расстралялі ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Адначасова з ім на загад Сталіна і Молатава супрацоўнікі НКВД забілі больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Забралі Каваля 2 лістапада 1936 года.



***Сцісла пра Васіля Каваля:***

*- Нарадзіўся 17 жніўня 1907 году ў сям'і былога царскага ўрадніка.*

*- Вучыўся ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме і Беларускім дзяржаўным універсітэце.*

*- Друкавацца пачаў у 1925 годзе. Дэбютаваў вершамі. Пазней пачаў пісаць прозу.*

*- У 1927 годзе выйшла першая кніга - "Як вясну гукалі".*

*- Да арышту ў 1936-м выдаў яшчэ 4 кніжкі.*

*- Займаўся перакладамі на беларускую мову расейскіх пісьменнікаў.*

*- Пасля рэабілітацыі ў 1957 годзе пабачылі свет тры зборнікі ягоных твораў.*

*- У 1966 годзе ўрывак апавядання "Следапыт" увайшоў у "Хрэстаматыю па беларускай дзіцячай літаратуры". А ў 1967-м твор "Ілька" - у першы том "Анталогіі беларускага апавядання".*

*- Апошняя кніга, "Избранное", выйшла на расейскай мове ў 1975 годзе накладам 200 тысяч асобнікаў. Больш ягоных кніжак не друкавалі.*

Памятны знак Васілю Кавалю паставілі каля мясцовай школы на вуліцы, названай ягоным імем. На адкрыццё сабраліся вяскоўцы, кіраўніцтва сельсавета і горацкага райсавета. З Менска прыехалі родныя пісьменніка: дачка Аліна Васільеўна, унукі і праўнукі.

Аліна Васільеўна Таржыцкая ня памятае бацькі. Яго расстралялі, калі ёй было два месяцы. Пра тое, што Васіль Каваль - яе бацька, даведалася пасля ягонай рэабілітацыі ў 1957 годзе. Як яна кажа, у той жа год пазнаёмілася з родзічамі бацькі.

- Вядома ж, я лічыла сваімі бацькамі тых, хто мяне выгадаваў як родную, - згадвае Аліна Васільеўна эмоцыі ад той навіны. - Калі даведалася пра тату, то пачуцці былі блытаныя праз тое, што лёс так склаўся.

***Трагічны лёс бацькі і маці***

*Да 20 гадоў Аліна Васільеўна жыла пад прозвішчам свайго айчыма - Сапетка. Яе маці Паліна Басікевіч, акторка Тэатра юнага гледача, выйшла за Анатоля Сапетку, каб уратавацца ад рэпрэсій.*

*Ейны лёс таксама склаўся трагічна. Яна загінула ў менскім гета. Дачку ўратавала жыхарка Менска Алена Смольская, якую ў 1998 годзе ўганаравалі званнем "Праведнік народаў свету". Па вайне яна выйшла за Анатоля Сапетку. Яны і гадавалі Аліну.*

*Аліна Васільеўна скончыла факультэт замежных моў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выйшла замуж за вайскоўца і "20 гадоў вандравала" з ім па Савецкім Саюзе. У 1983 годзе, калі муж дэмабілізаваўся, разам з ім вярнулася ў Менск. У іх двое дарослых дзяцей, унукі, праўнукі. Сваё жыццё прысвяціла настаўніцтву.*

По словах жыхароў Савы, вуліцу імем Васіля Каваля назвалі больш за дзесяць гадоў таму. На ёй цяпер школа, а раней стаяла хата бацькоў пісьменніка.

Лідарка ініцыятыўнай групы па ўшанаванні пісьменніка Алена Бірчанка кажа, што думка паставіць яму памятны знак з'явілася ў 2012 годзе. Пра Васіля Каваля яна ведала з маленства. А ў школе чытала ягоныя кніжкі.




14 траўня 2013 года Алена Анатольеўна звярнулася да жыхароў Савы са сваёй ідэяй праз абвесткі. Ажыццявіць задуманае дапамагаў ёй муж, былы вайсковец, Міхаіл Фёдаравіч.

- Я тады напісала, - згадвае яна, - што варта ўшанаваць вядомага земляка і што нельга быць бяспамятнымі.

Горацкі краязнавец Уладзімір Ліўшыц у 1993 годзе, збіраючы матэрыял для сваёй кнігі "Раскопкі каля Горацкага Парнаса", з дазволу кіраўніка КДБ Беларусі пагартаў асабістую справу Васіля Каваля. Па ягоных словах, у ёмістай тэчцы былі ордэр на арышт, пратаколы допытаў, даведка аб расстрэле. Дакумента пра месца пахавання не было.

Паводле краязнаўца, арыштавалі Васіля Каваля 2 лістапада 1936 года. У пастанове гаварылася, што ён *"з'яўляецца актыўным удзельнікам контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая ставіла сваёй мэтай адарванне Беларусі ад Савецкага Саюза і ўтварэнне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі, таму неабходна правесці вобшук, арыштаваць і прыцягнуць да судовай адказнасці".*

Уладзімір Ліўшыц кажа, што пратаколы допытаў былі падпісаны самім пісьменнікам. На ягоную думку, зняволены прызнаў віну, каб выбавіць ад рэпрэсій жонку Паліну Басікевіч, з якой ажаніўся ў 1936 годзе.

Каб уратавацца ад арышту Паліна Басікевіч выраклася мужа неўзабаве, як яго забралі. Уладзімір Ліўшыц кажа, што родная сястра пісьменніка Марыя апавяла яму, што між братам і Палінай была такая дамоўленасць, бо ён прадчуваў зняволенне і не хацеў праблемаў сям'і.

***Лёс родных Васіля Каваля***

*Бацьку пісьменніка Пятра Кліменцевіча ў 1931 годзе прызналі вінаватым у "шкодніцтве", "развале калгаснага ладу" і далі 5 гадоў. У лістападзе 1937-га расстралялі. Рэабілітавалі толькі ў 1989 годзе.*

*Маці Каваля Ульяна памерла да 1930 года. Яе магілу на вясковых кладах нашчадкі так і не адшукалі.*

*У хаце бацькоў пісьменніка жыла ягоная сястра Марыя. Паводле вяскоўцаў, была яна жанчынай паважанай і інтэлігентнай. На месцы яе хаты цяпер пустка. Яе пабурылі неўзабаве пасля смерці гаспадыні. Памерла яна ў 2005 годзе, пражыўшы 91 год. Пахавана на могілках роднай вёскі.*

*Брат Фадзей загінуў на Другой Усясветнай вайне. Да яе настаўнічаў.*

Імем Васіля Каваля названая вуліца ў Магілёве. У сельскай бібліятэцы ў Саве зрабілі мемарыяльны пакой, прысвечаны ягонаму жыццю і творчасці пісьменніка. У 1998 годзе Уладзімір Ліўшыц выдаў брашуру "Сын вёскі".

***Гэтая публікацыя падрыхтавана Радыё Свабода з выкарыстаннем інфармацыі БелаПАН.***

**Экалогія** ***Яўген Гучок***

# Сэрца прыроды

## *п-а-э-м-а э-с-э*

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

* * *

А да Русо
Паэты Антычнасці
Прыроду-маці абагаўлялі.

* * *

Стане гонарам
Для зямлі чалавек -
Экалогія расквітнее.

* * *

У экалагічна здаровай
прыродзе планеты
Ніякія прышэльцы анічога
Не зробяць з намі.

* * *

Толькі якасная асоба
Можа якасна ўпраўляцца
З экалагічным кліматам
на планеце.

* * *

Калі і немаўляты будуць
Любіць прыроду,
Дык і з экалогіяй будзе парадак.

* * *

Не зламаў ты кветку ў полі,
Не растаптаў багоўку ў садзе -
Ты варты звання
эколага-пачаткоўца.

* * *

Калі чалавек у прыродзе,
А прырода у ім -
Вось гэта сапраўдная экалогія.

* * *

Паважацьмеш прыроду -
Яна ашчаджацьме
Цябе.

* * *

Дзівіцца чалавек у прыродзе,
А каб ён яе болей ведаў,
Яшчэ болей дзівіўся б.

* * *

І ахове прыроды
Усё ж трэба вучыцца
У старажытных.

* * *

Чыстай будзе Зямля -
Празрыстымі будуць і вокны яе
У бясконцасць Сусвету.

* * *

Не разыйсціся б людзям
З прыродаю да канца -
Праблема глабальная чалавецтва.

* * *

Як заіснуе гармонія мірная
Між драпежнікам і ахвярай,
Тады і экалогія знікне.

* * *

Каб быць сапраўдным эколагам,
Асаблівай навукі не трэба;
Галоўнае - не паскудзіць.

* * *

Метады экалогіі інжынернай,
Калі яны без душы,
Выбухам пагражаюць.

* * *

Хай усе экалагічныя суполкі
Заклікаюць чалавека:
"Заставайся ж ты homo sapiens!"

* * *

Экалогію прыроды
Цэніць болей за іншых
Астраном - сябра Сусвету.

* * *

Дык хто ж атрымае
Зямлю ў спадчыну?
У каго з Зямлёю ўзаемалюбоў!

***14.10. 2019 г.***

# Пераклад Выбарчага кодэкса на беларускую мову ўхваліла экспертная рада

На чарговым пасяджэнні экспертнай рады па перакладзе заканадаўчых актаў на беларускую мову сёння адобраны і рэкамендаваны да размяшчэння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале пераклад Выбарчага кодэкса на беларускую мову, перадае БелТА.

Па словах дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Ігара Капылова, праца над перакладам была досыць напружанай і інтэнсіўнай, паколькі вялася адносна нядоўга - крыху больш за два месяцы, а аб'ём кодэкса досыць вялікі. Асаблівая складанасць была выкліканая тым, што праца з заканадаўчымі дакументамі патрабуе не толькі ведання моўных норм, але і цеснага супрацоўніцтва з юрыстамі. Часам адны і тыя ж паняцці ў розных нарматыўных дакументах маюць розніцу ў трактоўках.

Акрамя таго важна, каб тэрміналогія адпавядала двум асноўным прынцыпам: аднназначнасці і сістэмнасці, не павінна быць сінаніміі.

***nn.by.***

№ 46 (1457) 13 ЛІСТАПАДА 2019 г. Наша слова

*Літаратура без межаў*

# Пятро Франко: вялікі сын вялікага бацькі

На радзіме вядомага ўкраінскага пісьменніка, паэта, вучонага і публіцыста Івана Франко, у дзяржаўным гістарычна-культурным запаведніку "Нагуевічы" на Львоўшчыне, адбылася прэзентацыя кнігі беларускага пісьменніка і гісторыка Юрыя Кур'яновіча "Пятро Франко. Авіятар, хімік, літаратар". Гэта першае беларускамоўнае выданне пра вялікага сына вялікага бацькі, аднаго з найвыдатнейшых прадстаўнікоў украінскага народа. Юры Уладзіміравіч - адзіны айчынны літаратар, які падтрымлівае цесныя сувязі з нашчадкамі героя кнігі, прысвечанай светлай памяці ўнучкі Пятра Іванавіча Надзеі Франко, якую ён асабіста ведаў і якая адышла ў нябыт 10 траўня 2018 года. У кнізе пра яе ўпершыню распавядае сястра Іванка Міліянчук.




МЕСЦА для прэзентацыі было выбрана зусім не выпадкова. Пятро быў трэцім, малодшым сынам Івана Якаўлевіча і адзіным з яго дзяцей, хто нарадзіўся там, дзе і бацька. У цікавай творчай сустрэчы ўзялі ўдзел галоўны арганізатар мерапрыемства дырэктар "Нагуевічаў" Багдан Лазорак, які мае беларускія (віцебскія) карані, прадстаўнікі мясцовай улады і вядомыя грамадска-культурныя дзеячы. Сярод іх былі перакладчык беларускай паэзіі, паэт і літаратуразнаўца, сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Міхайла Шалата, прадстаўнікі Драгабыцкага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Івана Франко - прафесар кафедры ўкраінскай літаратуры і тэорыі літаратуры філфака, публіцыст, паэт, краязнавец і літаратуразнавец, сябар Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Раман Пастух, дэкан гістфака, прафесар Леанід Цімашэнка, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры сусветнай літаратуры і славістыкі філфака Галіна Сабат, дырэктар універсітэцкай бібліятэкі Ігар Разлуцкі, грамадская дзячка, ідэйная натхняльніца кніжна-літаратурнага фестывалю "Трускавецкі літфэст" Ганна Літвін і іншыя.

Адзначалася, што беларуская кніга Юрыя Кур'яновіча з'явілася значнай падзеяй у франказнаўстве і несумненна будзе спрыяць узмацненню ўкраінска-беларускіх культурных сувязяў. Аўтар зрабіў вельмі вялікую і пачэсную справу. Дзякуючы яму, гістарычная асоба сына Івана Франко, які знаходзіўся ў цені бацькі, стане куды болей вядомай не толькі для беларускай, але і для ўкраінскай грамадскасці. Як заўважала пляменніца Пятра Іванавіча, вядомы мовазнавец і грамадская дзяячка Зіновія Франко, на якую Юры Кур'яновіч спасылаецца ў прадмове да сваёй кнігі, з імем дзядзькі ўвязваліся перыпетыі падзей 20-х і 30-х гадоў, уз'яднанне 1939-га і таемная расправа, хоць, па афіцыйнай версіі, ён загінуў ад фашысцкай бомбы. Сцвярджаючы гэта, улады забаранялі згадваць яго імя нават у музеі бацькі, першым дырэктарам якога ён быў.

Удзельнікі прэзентацыі аднагалосна пагадзіліся з аўтарам кнігі, што на долю слыннага земляка выпала шмат духоўных і маральных выпрабаванняў. Яны былі павязаныя з варункамі асабістага і грамадскага жыцця. Але ў складаных сацыяльна-палітычных абставінах таленавіты навуковец-хімік, літаратар, адзін з першых украінскіх авіятараў ніколі не губляў нацыянальнай годнасці і веры ў высокае прызначэнне чалавека.

ПРЫСУТНЫЯ не маглі не звярнуць увагу на другую частку дасканалай працы, на тое, што яна ўяўляе сабой вельмі глыбокае літаратуразнаўчае даследаванне. Аўтар не проста ўпершыню поўнасцю пераклаў на беларускую ўспаміны сына пра бацьку пад назвай "Іван Франко зблізу", а змясціў дакладныя каментары да гэтага твора, якія налічваюць аж 104 зноскі. Ён падаў біяграфічныя звесткі амаль кожнай асобы, якую згадвае, патлумачыў гэаграфічныя назвы, дыялектныя словы, для параўнання прывёў розныя заўвагі на пэўныя факты Пятра Франко і ўкраінскіх даследчыкаў. Ва Украіне ўспаміны сына пра бацьку не тое, што не друкаваліся з такімі падрабязнымі каментарымі, яны ўвогуле друкаваліся без каментароў. Дарэчы, упершыню твор Пятра Франко ў перакладзе Ю. Кур'яновіча з'явіўся ў "Літаратурнай Беларусі" 29 чэрвеня 2012 г.ода. Гэта было апавяданне "Руды пацук" . Яно ўвайшло ў кнігу разам з творамі "Іван Франко зблізу" і "У Херсоне".

Упершыню першы перакладчык твораў П. Франко на беларускую пазнаёміўся з Украінай напачатку 80-х, калі быў яшчэ школьнікам. На летніх вакацыях ён апынуўся разам з бацькамі на адпачынку ў курортным Моршыне. Тое, што тады ўразіла і запомнілася, акрамя краявідных малюнкаў Прыкарпацця і Карпат, пісьменнік і даследчык сцісла і ёміста называе сёння двума словамі - нацыянальны каларыт. Ён увасабляўся не толькі ў дойлідстве, народных вырабах, нацыянальных стравах, апранутай у вышыванкі моладзі, розных шыльдах і плакатах па-ўкраінску, а перш за ўсё - у гучанні роднай мовы. Мясцовае насельніцтва натуральна, нязмушана і, не саромеючыся, размаўляла на матчынай мове, што ў той час, як, зрэшты, і сёння, істотна адрознівала радзянскую Украіну ад савецкай Беларусі. Свая, родная гаворка, была чутна паўсюль: на вуліцы, у аўтобусе, краме, кавярні, аптэцы, у размове падлеткаў. Украінскае маўленне, нібы паветра, лунала над тутэйшай зямлёй, нягледзячы на розныя савецкія ідэалагічныя ўстаноўкі і тэорыі пра зліццё моў і нацый. І, мабыць, тады ўпершыню пэўная геаграфічная прастора пачала разумецца патрыёту роднай зямлі і як мовы ў нацыянальным кантэксце. Змест украінскага нацыянальнага каларыту паступова асэнсоўваўся, па словах мастака, пасля новых летаванняў у Моршыне і наведванняў падчас гэтых адпачынкаў Львова, Стрыя, Даліны, Балехава і Чарнаўцоў.

Пазней былі два гады салдацкай службы ў Палтаве, дзе аднойчы ў звальненні Юры набыў сваю першую ўкраінскую кніжку - малафарматны томік "Кабзара" Тараса Шаўчэнкі з ілюстрацыямі знакамітага мастака Васіля Касіяна. Пасталеўшы, будучы пісьменнік адкрыў для сябе творчыя набыткі Івана Франко, Лесі Украінкі, Марка Чарамшыны і Параскі Плыткі-Горыцвіт - гуцульскай самабытнай пісьменніцы і зберагальніцы народнай спадчыны з карпацкага сяла Крывараўня на Івана-Франкоўшчыне, а таксама знакавы фільм Сяргея Параджанава "Цені забытых продкаў" паводле аповесці Міхася Кацюбінскага. Вось такім быў шлях творцы да ўкраінскіх перакладаў, некалькі з якіх ён прэзентаваў у кнізе "Цвітуць сланечнікі", што пабачыла свет у 2013-м. Застаецца шчыра парадавацца за Юрыя і падзякаваць яму за плённую працу ў галіне не толькі перакладу, але ўвогуле ў нашай літаратуры, бо кніга, пра якую ішла гаворка, стала трэцяй па ліку, якая выйшла ў бягучым годзе.

***Уладзімір Барысенка.***

*Фота Юрыя Кур'яновіча.*



*Злева направа: пярэдні рад - **Багдан ЛАЗАРАК** (укр. Богдан Лазорак; дырэктар дзяржаўнага гістарычна-культурнага запаведніка "Нагуевічы"), **Юры КУР'ЯНОВІЧ**, **Міхайла ШАЛАТА** (укр. Михайло Йосипович Шалата; перакладчык беларускай паэзіі, паэт і літаратуразнаўца, член Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, прафесар кафедры ўкраінскай літаратуры і тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Драгабыцкага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта (ДДПУ) імя Івана Франко), **Раман ПАСТУХ** (укр. Роман Іванович Пастух; публіцыст, паэт, краязнавец, літаратуразнавец, член Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны); задні рад - **Ганна ЛІТВІН** (укр. Анна Литвин; грамадская дзяячка, ідэйная натхняльніца кніжна-літаратурнага фестывалю "Трускавецкі літфэст"), **Ігар РАЗЛУЦКІ** (укр. Ігор Миколайович Розлуцький; дырэктар бібліятэкі ДДПУ імя І. Франко), **Васіль ЗВАРЫЧ** (укр. Василь Захарович Зварич, кандыдат філалагічных навук, дацэнт ДДПУ імя І. Франко), **Леанід ТЫМАШЭНКА** (укр. Леонід Володимирович Тимошенко; дэкан гістарычнага факультэта ДДПУ імя І. Франко, прафесар), **Уладзімір ХАНАС** (укр. Володимир Йосипович Ханас; намеснік галавы Драгабыцкай дзяржаўнай адміністрацыі), **Міхайла ЗАДАРОЖНЫ** (укр. Михайло Задорожний; дэпутат Львоўскай абласной рады, прадпрымальнік), **Галіна САБАТ** (укр. Галина Петрівна Сабат; доктар філалагічных навук, прафесар кафедры сусветнай літаратуры і славістыкі філалагічнага факультэта ДДПУ імя І. Франко).*









## *Скарб народны, музычны, гуллівы Зберажом для нашчадкаў мы*

Выйшаў насценны каляндар на 2020 год пад назвай "Грай, Валожынскі край". Памер яго - 32см на 45см, колькасць лістоў - 6 ( на кожнай старонцы адпаведны месяц года) і 2 лісты тытульныя. Адзначаны дзяржаўныя святы і галоўныя святы каталіцкія і праваслаўныя.

Гэта першая спроба распачаць выданне такога кшталту на мясцовым матэрыяле.

Каляндар прэзентуе беларускія народныя музычныя інструменты як добра вядомыя ўсім (скрыпка, гармонік, цымбалы, барабан ...), так і менш вядомыя (басэтля, жалейка, варган, сурма, акарына); змяшчае фотаздымкі музыкаў і калектываў Валожыншчыны, якія паспяхова карыстаюцца або карысталіся гэтымі інструментамі, а таксама знаёміць з майстрамі па вырабе некаторых музычных інструментаў. Напрыклад, майстар па вырабе дуды, жалейкі, ліры Кашкурэвіч Тодар, майстар-кераміст, які адрадзіў традыцыю вырабу свістулек на Валожыншчыне, Раманоўскі Алег, заслужаны дзеяч культуры БССР Ляшчынскі Іосіф, настаўнік па класе флейты і дуды Івянецкай музычнай школы Радзівілава Кацярына, музыка-віртуоз з в. Бабры Вішнеўскага с/с Зянкевіч Яўген, інструментальная капэла сям'і Лямбовіч, народны гурт народнай песні "Сваякі", інструментальная капэла "Івянецкія музыкі", народны хор ветэранаў працы "Спяваючыя сэрцы", заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь "Гасцінец" і інш.

Выкліча вясёлы настрой старонка на месяц красавік, дзе змешчана фота народнага гурта народнага гумару "Дубінскія фанабэры", якія выкарыстоўваюць у якасці музычных інструментаў розныя гаспадарскія прылады сялянскага ўжытку.

Наогул, усе старонкі календара выклікаюць замілаванне і цёплыя пачуцці, бо аформлены яны з добрым мастацкім густам і высокаякасна надрукаваны. Змешчаныя на іх фотаздымкі зроблены на высокім прафесійным узроўні, кожны вобраз, праз які прэзентуецца пэўны музычны інструмент, адпавядае характару гэтага інструмента.

Змешчана толькі тое, што добра вядомае, дакладна праверанае, улічвалася наяўнасць фактычнага матэрыялу і тое, што звязана непасрэдна з народнымі інструментамі. Ды і змясціць у календары ўвесь пласт такой культуры немагчыма.

Каляндар шматфункцыянальны: прызначаецца для паўсядзённага карыстання, мае пазнавальнае значэнне і эстэтычную накіраванасць. Створаўся ён з любоўю і пашанай да народнай культуры, да роднай зямлі - Валожыншчыны, і людзей, якія жывуць на ёй.

Поўніцца сэрца радасцю і гонарам за сваіх землякоў-прадзедаў, якія пакінулі для нас скарб, народны, музычны, гуллівы, а сённяшнія музыкі зберагаюць гэты скарб і перадаюць наступнаму пакаленню.

Працавалі над календаром сябры Валожынскай суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны.

Дзякуем за падтрымку і дапамогу ў арганізацыі працы Грамадскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, аддзелу ідэалагічнай работы культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама, работнікам культуры раёна.










*Людвіка Таўгень,*
*старшыня Валожынскай суполкі ТБМ.*

## *Бажан, скрыпень, віхраслуп:* экалагічны каляндар ад "Будзьмы" ўжо ў продажы!

Новы каляндар з папулярнай серыі "Не маўчы па-беларуску!" на 2020 год ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" з'явіўся ў продажы.

Кожны год кампанія імкнецца парадаваць аматараў беларускага слова нечым новым. Гэтым разам каляндар прысвечаны важнай тэме - экалогіі. І з яго вы даведаецеся, як па-беларуску правільна называюцца і з'явы прыроды, і птушкі, і жывёлы, і расліны, і сузор'і, і многае іншае. А яскравыя малюнкі ад мастачкі Дашы Мандзік у апрацоўцы дызайнера Анатоля Лазара будуць натхняць на экалагічна адказныя паводзіны і ствараць пазітыўную атмасферу цягам усяго года!

Нагадаем, што папулярная серыя календароў "Не маўчы па-беларуску!" - гэта адзін з самых паспяховых і запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу.

Каляндар "Не маўчы па-беларуску!" на 2020 год ужо можна набыць у наступных крамах: "Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72); "Мой модны кут" (пр-т Незалежнасці, 58, ГЦ "Маскоўска-Венскі", пав. 333); Symbal.by (пр-т Машэрава, 18); "Цэнтральная кнігарня" (пр-т Незалежнасці, 19); "Веды" (вул. К. Маркса, 36); Кнігі&кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14); "Светач" (пр-т Пераможцаў, 11); "Эўрыка" (вул. Куйбышава, 75), а таксама ў іншых кнігарнях ААТ "Белкніга".

Пра новыя пункты продажу ў сталіцы і абласных цэнтрах мы паведамім дадаткова.







*"Будзьма беларусамі!"*

***Навіны Германіі***

## У Германіі не будуць абмяжоўваць хуткасць на аўтабанах

Германія пакуль застаецца мекай для аматараў хуткасці: на мясцовых аўтабанах не будуць уводзіць абмежаванні хуткасці.

Прапанова ўвесці ліміт 130 км/г унеслі ў нямецкі парламент "зялёныя", яны назвалі адсутнасць абмежавання хуткасці на аўтабанах вар'яцтвам. "Зялёныя" лічаць, што безлімітныя хуткасныя аўтабаны правакуюць ДТЗ і вядуць да падвышанага забруджвання атмасферы выхлапнымі газамі, піша motor.ru. Аднак Бундэстаг прапанову не падтрымаў, а міністр транспарту Германіі заявіў, што ўвядзенне адзінага абмежавання хуткасці супярэчыць здароваму сэнсу. Цяпер у Германіі абмежаванні хуткасці ўстаноўлены прыкладна на трэці аўтабанаў, да таго ж часовыя абмежаванні могуць уводзіцца ў час дрэннага надвор'я або рамонту.



*zviazda.by.*
*Фота: livingnomads.com.*

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

***Віктар Шніп***

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Балады крыві і любові*

**БАЛАДА МІХАЛА АНДРЫЁЛІ**
**(14.11.1836-23.08.1893)**



…Уцёкшы з царскае турмы на волю,
Жывеш спакойна ў Лондане й Парыжы.
І цёплы снег, які ляціць з тапаляў,
Цябе вяртае ў Віленскую цішу,
У родны тлум, якія назаўсёды
З табою будуць, як да волі прага.
Твае карціны - залатыя соты,
Любоўю поўныя, крывёю сцяга,
Які лунаў у бітвах над сябрамі,
З якімі ты ішоў праз смерці вецер…
І ты вяртаешся дамоў, бо ў свеце
Мілей няма зямлі, дзе над палямі
Лятуць буслы і жаўрукі крыляюць.
Герояў на радзіме не вітаюць,
Іх у Сібір, нібы ў агонь, кідаюць.
І ты жывеш у высылцы, малюеш,
І ты свой лёс прымаеш без праклёну,
Душою ў Вільні, дзе б ні быў, начуеш
І застаешся рыцарам да скону…

*22.25.07.2008 г.*

**БАЛАДА КАМІЛЫ МАРЦІНКЕВІЧ**
**(каля 1837- 1900)**



Ты ў высылцы за кінутыя кветкі
Паўстанцу на яго апошні шлях
Глядзіш на свет з усмешкай вельмі рэдка,
Часцей за ўсё-праз слёзы на вачах,
Бо тут забыцца пра Шапэна, Ліста,
Пра Менск і Вільню, пра сваіх сяброў -
Нібыта ўсё, што ёсць, спаліць дачыста,
Каб праз хвіліну аднаўляць ізноў…
І помніш Вільню ты і Менск, вядома,
І мовы беларускай прыгажосць.
Праз дваццаць год ты вернешся дадому,
Не вернецца ніколі маладосць.
Ды не шкадуеш, што букет праз краты
Для інсургента кінуць ты змагла, -
Не хлопца прад табой вялі салдаты, -
Айчына нескароная ішла.

*7.11.2008 г.*

**БАЛАДА БАЛЯСЛАВА КОЛЫШКІ**
**(7.08.1837-9.06.1863)**

Як знак невінаватасці - парваная вяроўка,
Але спакойна кат ізноў нацягвае пятлю.
І сонца над прыцiхлай Вільняй
божаю кароўкай
З нябёсаў светлых,
як з крыла анёла, на зямлю
Перад табою падае і назаўжды знікае,



І ты вісіш, нібы звана невырваны язык.
І ўжо народ на пляцы -
як кулак, які сціскае
Твой сябар, у сабе, як бомбу,
затаіўшы крык.
І гэты крык з душы правевецца
і разбудзіць Бога,
І мары светлыя ўсе збудуцца, і праз гады
Твая паўстанцкая
не зарасце быллём дарога
Да Беларусі вольнай,
нібы да жывой вады…

*8.07.2011 г.*

**БАЛАДА ВОЛІ**
**КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**
**(2.02.1838-22.03.1864)**

*Беларусь - не царам маскоўскім,*
*Беларусь - не варшаўскім панам!*
***Алесь Дудар.***



Што выбраць: волю ці няволю? -
Хутчэй для здрадніка пытанне.
У змагара ліхая доля,
Са смерцю вольнае каханне.

Чужынцам крыўская пагоня
Спакойна на дае ўладарыць,
Таму й пяюць хвалу кароне
І нішчаць вольныя штандары.

А хто чужы? Хто здрадзіў волі,
Сваю зямлю прадаў за словы.
А хто свае? Хто ў ратным полі
За Край паклаў свае галовы.

І хай разгромлена паўстанне,
І хай панішчаны штандары,
Але не можа быць пытання:
Каму Айчынаю ўладарыць?

*1980-я гады.*

**БАЛАДА ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА**
**(9.03.1840-15.04.1900)**

*"Яснавяльможнай пані, напэўна, вядома, што яе высакароднаму сыну я абавязаны ўсёй сваёй будучыняй; мабыць і да сяняшняга дня я абіваў бы без усякай карысці віленскі брук, калі б не ягоная шляхетная дапамога..."*
***З ліста Ф. Багушэвіча да А. Карловіч ад 26 жніўня 1865 г., Нежын.***



Лукішкі. Пляц. Натоўп маўчыць, чакае.
Пятля чарнее, як змяя, якая
З усходу прыпаўзла да нашай волі,
Каб мы не зналі лепшай светлай долі.
І ты ў натоўпе, быццам сэрца ў целе
Паўстанца, што яшчэ жывы, але
Надзею на змаганне ўжо ледзь цепле.
Жыццё, як снег на веснавым святле,
Знікае і слязой цячэ па твары,
І ўжо Кастусь, нібы ў звана язык,
Вісіць пад небам, дзе дымяцца хмары,
І ты ў натоўпе, як у горле крык,
Стаіш, не знаючы, як жыць у Вільні
Цяпер, калі натоўп маўчыць, чакае,
Калі пятля, нібы змяя жывая,
І Вільня ўся, нібыта склеп магільны,
З якога хочацца ўцячы, каб жыць,
Каб потым скрыпка з дудкай на крыжы
Заплакалі аб лепшай светлай долі...
Нічога ўжо не зменіцца ніколі
І ты па бруку віленскім брыдзеш,
Нібыта крыж у Беларусь нясеш...

*28.03.2005 г.*

**БАЛАДА ЦІТУСА ДАЛЕЎСКАГА**
**(13.05.1840-11.01.1864)**

Не баішся нічога, і нават памерці
Не баішся - абрыдзелі цені-віжы,
І штодня ў тваім плача зажураным сэрцы
Родны край,
што распяты на чорным крыжы
Еўрапейскіх дарог між Масквой
і Варшавай,
Для якіх Беларусь - гэта проста прастор,
На якім растуць бульба, бярозы і травы,
А народ - гэта пыл, што без сонца і зор
Можа быць,
можа жыць і знікаць пад вятрамі,
Што на ўсходзе і захадзе вечна не спяць,
А век нашу зямлю засяваюць касцямі,
Каб народ наш з каленяў
не змог заўтра ўстаць…

Не баішся нічога, бо не адзінокі.
З Кастусём Каліноўскім да волі ідзеш,
І твой шлях, як у небе халодным аблокі,
Гэткі ж сумны, кароткі, нібыта капеж,
Што пад студзеньскім сонцам,
ажыўшы на хвілю,
Зноў заціх, растрывожыўшы сэрцы і сны.
Пад канвоем паўстанцы
прывезены ў Вільню,
І пастаўлены з імі і ты да сцяны,
Да сцяны беларускага плачу і гора.
І на снег упадзеш акрываўлены ты,
Ды ніколі не будзе пакорным прасторам
Родны край, для якога ты жыў, малады…

*24.06.2011 г.*

**БАЛАДА АЛЬГЕРДА АБУХОВІЧА**
**(25.07.1840-10.08.1898)**




Усё аддаў людзям і толькі кнігі
З сабой забраў, каб на кватэры жыць
У Слуцку, да пары да часу ціхім,
І памяці вуголле варушыць.
І апякацца дымнымі вятрамі
Шляхоў паўстанцкіх, па якіх і ты
Прайшоў, губляючы сяброў, з сябрамі,
Каб потым у Сібіры маладым
Сівець, не праклінаючы нікога
І не шкадуючы багацяў тых,
Што ад бацькоў, бо тое, што ад Бога,
Жыве ў табе з крывёй дзядоў тваіх,
Якіх у Княстве і Еўропе зналі.
І пішаш ты пра родную зямлю,
Дзе парассыпаны, нібы каралі,
Азёры, ля якіх тваё "люблю"
Пад сонцам залацістымі пяскамі
У травах не губляецца сівых.
І вучыш ты дзяцей, каб заўтра самі
Яны маглі адрозніць ад чужых
Сваіх людзей, якім патрэбна воля
І кнігі, у якіх наш край жыве
І вырванай старонкаю ніколі
Яму не быць, не знікнуць у жарстве…

*30.07.2008 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# У Слоніме ўрачыста адкрылі бюст Міхала Казіміра Агінскага

У цэнтры Слоніма каля драматычнага тэатра 6 лістапада адбылося ўрачыстае адкрыццё бюста Міхала Казіміра Агінскага. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел дзясяткі слонімцаў і кіраўніцтва райвыканкама. Старшыня Слонімскага райвыканкама Генадзь Хоміч адкрыў мерапрыемства, адзначыўшы, што гетман Міхал Казімір Агінскі шмат зрабіў для эканамічна-культурнага развіцця горада Слоніма ў пазамінулым стагоддзі. І дзякуючы яго традыцыям, і сёння ў Слоніме дзейнічае дзяржаўны прафесійны тэатр. Генадзь Хоміч таксама падзякаваў аўтару бюста і мецэнату Уладзіміру Вількіцкаму за падарунак роднаму гораду. Перад адкрыццём бюста выступілі таксама кіраўнік грамадскага аб'яднання "Слонім. Канал. Агінскі" Іван Вадэйка, які распавёў пра лёс Агінскіх, а таксама аўтар праекту Уладзімір Вількіцкі.











Гэтыя слонімцы пад славуты паланэз ля-мінор "Развітанне з Радзімай" Міхала Клеафаса Агінскага адкрылі бюст яго дзядзьку Міхалу Казіміру Агінскаму. Дарэчы, сёлета 1 верасня, побач праз вуліцу быў адкрыты ў Слоніме і помнік Льву Сапегу. Так што, турыстаў сёння ў Слоніме шчыра вітаюць і Леў Сапега, і Міхал Казімір Агінскі.

***Барыс Баль,***

*Беларускае Радыё Рацыя, Слонім. Фота аўтара*

# Мігова

*(Працяг. Пачатак у № 4, № 5, № 6 за 2019 год.)*

**Кароткая гісторыя будаўніцтва памятнага знака акадэміку Яўхіму Карскаму**

У жніўні 2016 года скідзельскія сябры ТБМ запрасілі гарадзенцаў ад Таварыства беларускай мовы на святкаванне 125-годдзя паэта Макара Касцевіча-Краўцова ў вёску Баброўня на рэчку Котра ў вельмі прыгожыя мясціны. Там мясцовыя актывісты ТБМ паставілі памятны знак беларускім паэтам Макару Касцевічу і Міхасю Касцевічу-Галубку. Журналістка Тамара Мазур з газеты "Перспектыва" ўзяла ва ўдзельнікаў святкавання інтэрв'ю, дзе таксама давялося сказаць некалькі слоў, што беларусы пачынаюць вяртацца да сваіх каранёў, мовы і культуры, і выказаць жаданне паставіць у Мігова памятны знак акадэміку Я. Карскаму, з якім паэт Макар Касцевіч-Краўцоў быў на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года ў сталіцы Беларусі і апісаў тыя драматычныя падзеі. Са жніўня 2016 года і пачалася праца па зборы інфармацыі пра неабходныя дакументы для ўсталявання памятнага знака. Збіралі подпісы садаводаў разам са старшынём садовага таварыства "Мігова" Віктарам Францавічам Радзівановскім, потым са старшынём Абухаўскага сельскага савета Смалеем Валерыем Уладзіміравічам праводзілі вясковы сход і абыходзілі дамы жыхароў Мігова для збору подпісаў, падтрымалі гэтую ідэю адміністрацыя гімназіі № 1 у Гародні, якая стала лепшай у Беларусі ў 2018 годзе і носіць ганаровае імя акадэміка Я. Карскага, дзе ёсць выдатны музей Я. Карскага, падтрымалі сябры Гарадзенскай абласной рады ГА Таварыства беларускай мовы і аддзела культуры Гарадзенскага райвыканкама.

Пазней, пасля наведванняў Міністэрства культуры і разгляду ліста Абухаўскага сельсавета Міністэртва культуры даслала неабходныя дакументы, дзе ўзгадніла выраб памятнай шыльды ў памяць аб Яўхіме Карскім і яе ўстаноўкі на камені ў в. Мігова. Пасля атрымання дазволу ў архітэктараў, была абарона праекту перад Гарадзенскай абласной мастацка-экспертнай радай і выпраўленне заўваг.

27 ліпеня 2017 года было атрымана рашэнне камісіі, якая рэкамендавала ўстаноўку памятнага знака. На афармленне ўсіх папер пайшло каля аднаго года. Здаецца, і не шмат. Магчыма зрабіць і хутчэй. Праўда, шмат часу было згублена пазней - у чаканні фундатараў і будаўнікоў праекту, з якімі папярэдне вусна дамовіліся. Сёння хочацца найперш узгадаць тых, хто ўсяляк дапамагаў і сказаць шчырае: "Дзякуй!"

Варта сказаць: "Вялікі дзякуй" - старшыні мастацка-экспертнай камісіі Загідулінай Святлане, якая раіла што і як дарабіць у праекце. Дзякуй таксама сябру камісіі галоўнаму архітэктару "Гроднаграмадзянпраект" Аляксандру Захарчуку, які таксама на валанцёрскіх пачатках дапамог правільна зрабіць чарцяжы праекту і падтрымаў разам з іншымі сябрамі камісіі праект цалкам.

Быў знойдзены галоўны фундатар праекту і будаўнічая фірма, прывезены на фірму вялікі валун, знойдзены ў Гарадзенскай вобласці, але, як часта бывае, аддадзены праект праляжаў у будаўнічай фірме больш года, бо з боку галоўнага фундатара не былі пералічаны сродкі. Каб усталяваць памятны знак трэба было знайсці ад 5 да 7 тысяч долараў. На рахунак у банку, які быў адкрыты, грошай ніхто не ахвяраваў. Верагодна, не зрабілі мы добрай рэкламы. Збіраць грошы нялёгкая справа, і чакаць годы пакуль назбіраецца патрэбная сума не хацелася, таму будаўнічай фірме, бо асноўныя будаўнічыя работы рабілі па-валанцёрску, самастойна.

**Пачатак будаўніцтва**

Увесну, 4 красавіка 2019 года , дзякуючы кіраўніцтву СПК імя Ільі Сяньо завезлі ў Мігова пясчана-гравійную сумесь. Першая праца была зроблена са старшынём садовага таварыства Віктарам Францавічам - выраўнялі насып для будаўнічай пляцоўкі.

Потым дамовіўся з гарадзенскімі сябрамі і яны знайшлі ў сваіх працоўных календарах пару дзён, прыехалі і 27ліпеня 2019 года выкапалі траншэю ў выглядзе прамакутніка і залілі туды прыгатаваны бетон разам з валунамі. Тут трэба ўзгадаць найперш Віталя Карнелюка, Янку Курчэўскага, Сяргея Амельку, якія шчыра адгукнуліся дапамагчы зрабіць з валуноў і цэментнага раствору п'едэстал для памятнага знака.







вырашылі рабіць праект паэтапна і самастойна. Было нялёгка, але добрыя людзі і валанцёры заўсёды ў добрай справе знойдуцца. Канчатковы праект абышоўся значна танней (каля 700 долараў), чым у

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Цікавы дакумент

***Ад перакладчыка**. Зараз гэтая беларуская кніга, выдадзеная ў 1835 г., добра вядома беларускім даследчыкам. Артыкул, які друкуецца ніжэй, расказвае, як яна была знойдзена.*

Нядаўна нам з недалёкай ад Вільні правінцыі прыслалі цікавую рэч - старую кніжку, пра існаванне якой мы не ведалі і нават не дапускалі, што магла быць кніга такога зместу і накірунку, выдадзеная віленскім біскупам у Вільні ў друкарні дыяцэзіі з дазволу. Гэта **"Кароткі збор хрысціянскай навукі для сялян рымакаталіцкага веравызнання, якія размаўляюць на польска-рускай мове"**, *Вільня ў дыяцэзіяльнай друкарні, 1835 г.*[1]

Кніжачка мае памер 10 х 15 см і налічвае 24 старонкі, без вокладкі але збрашуравана. Пра яе не ведалі Эстрэйхер (верагодна маецца на ўвазе Караль Эстрэйхер - *Л.Л.*), Курчэўскі, Карскі, Луцкевіч, Гарэцкі.

На старонцы кніжкі № 2 чытаем: *"1835 год, 5 чэрвеня ў Вільні. Гэты кароткі катэхізіс змяшчае ў сябе цвярозую і карысную для простых людзей навуку. Правячы біскуп Віленскай дыяцэзіі, кавалер ордэнаў, Андрэй Бенядыкт Клангевіч"* (гэты тэкст напісаны па-польску - *Л. Л.*) Пасля духоўнай праверкі дазвол для друку падпісаны цэнзарам П. Кукальнікам.

Далей (С. 3 - 15.) кніжка змяшчае сціслыя, выразныя і правільна пададзеныя кароткія праўды хрысціянскай веры на беларускай мове, якая магла б прысаромець сваёй якасцю нават некаторыя сучасныя органы беларускай прэсы. Пасля падмуркаў веры ідуць каталіцкія пацеры (С. 15 - 19.) пададзеныя па-польску. Такая палавінчатасць ёсць альбо саступкай ці данінай, зробленай на карысць паланізацыйным тэндэнцыям у дачыненні да беларусаў, ці простым наступствам таго, што тлумач не змог перакласці польскія пацеры на беларускую мову. На карысць апошняга кажа тая акалічнасць, што ўсе наступныя малітвы (С. 19 - 24.) пададзены зноў пабеларуску - напрыклад акты веры, надзеі і любві (Сімвал веры - *Л. Л.*), ахвяраванне святой імшы і, нарэшце, слынная песня "О мой Божа! Веру Табе"[2].

Як бачым са зместу кніжкі, яна з'яўляецца важкім довадам таго, што яшчэ ў 40-я гг. XIX ст. у нас у Вільні ніхто не думаў аб фарсіраваным, як сёння, спальшчэнні беларусаў праз касцёл, карыстаючыся іх несвядомасцю. Адначасова кніжка з'яўляецца доказам высокай культуры біскупа Клангевіча і таго асяроддзя, якое разумела неабходнасць навучаць беларусаў на іх уласнай мове і зрабіла для гэтага практычныя захады.

Выпадковая знаходка гэтай кніжкі, на якой алоўкам напісана: *"Ex libris sacerdiris Josephi Awizonis"*, можа быць кваліфікавана яе адкрыццё цалкам невядомага нам факта, пра тое, што сто гадоў таму, не ў далёкім Магілёве ці высунутым на ўсход Менску, але тут, у Вільні, разумелі актуальнасць беларускай праблемы і памяталі якой мовай карыстаецца большасць сялянскага люду (нягледзячы на веравызнанне) на тэрыторыі Віленскай і Гарадзенскай губерняў. Да гэтага часу было вядома, што свае подпісы пад беларускімі катэхізісамі ставілі толькі каталіцкія магілёўскія іерархі (ў Пецярбургу), напрыклад, пралат Дзянісевіч вядомы сваёй сімпатыяй да беларускага народа. Зараз маем надзвычай каштоўны факт, што такі подпіс у 1835 г. паставіў пад беларускай кнігай віленскі біскуп-суфраган і адміністратар дыяцэзіі (1828 - 1839), а потым віленскі біскуп (у 1839 - 1841) Клангевіч. Як чалавек, народжаны ў Інфлянтах, ён мог добра ведаць, што толькі вельмі тонкі слой абшарнікаў і гараджан … пакрывае сабой асноўную масу беларускага ці летувіскага народаў. Як прафесар тэалагічнага факультэта, а потым кіраўнік семінарыі і шматгадовы радца дыяцэзіі, Клангевіч, выдаючы беларускі катэхізіс выказваў такім чынам сваё глыбокае перакананне, што касцёл не павінен дэнацыяналізаваць народ, але браць пад апеку больш слабыя народы і бараніць ад больш моцнага народа.

Ці народ менш каштоўны за палявую траву, якую згодна з Евангеллем, не жадаў таптаць сваімі нагамі Езус?

***Ad. Soloduch*** (псеўданім кс. Уладзіслава Талочкі).

*Ciekawy dokument // Preglad Wilenski. № 26 - 27, 8 lipca 1922.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

[1] "Krotkie zebranie nauki chrzescjanskiej dla wiesniakow mowiacych jezykiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego". Wilno. W drukarni dyecezalnej, 1835.

[2] Гэта шырокавядомы беларускі грэка-каталіцкі гімн, магчыма і складальнікам кнігі быў уніяцкі святар. - *Л. Л.*

# ДАРАГІ НАШ СКАРБ



Вось ужо ў 16 раз фестываль-конкурс "Напеў зямлі маёй" сабраў аматараў народнай творчасці. На гэты фестываль, які традыцыйна праводзіцца ў Мар'інай Горцы, як правіла, пасылаюцца найлепшыя калектывы раёнаў Меншчыны. Валожынскі раён прадстаўлялі калектывы Ракаўскага ЦНТ: заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь "Гасцінец", узорны фальклорны гурт "Вянок", гульнёва-забаўляльны гурт "Чыжыкі", мастацкім кіраўніком якіх з'яўляецца Лізавета Пятроўская. Аўтарытэтнае журы начале з народным артыстам Беларусі прафесарам Міхаілам Дрынеўскім Гран-пры прысудзіла ракаўчанам, а галоўным прызам стаў новенькі мікрааўтобус.

Дарэчы заўважыць, ракаўскія артысты ўжо 5-ты раз прымаюць удзел у гэтым прыгожым фестывалі і заўсёды паспяхова: два Гран-пры, тры першыя месцы. Дык чым жа на гэты раз парадавалі яны заўзятараў народнай творчасці?

У аснову прадстаўлення была ўзята беларуская народная песня "Дуда", запісаная ад Соф'і Сымонаўны Зінько з вёскі Лоск яе сынам. Сюжэт песні просты, з лёгкім гумарам: дудара напаткала бяда - паламалася дуда. Але ж добрыя людзі не пакінулі ў бядзе музыку - скінуліся яму па пірагу, той пірагі прадаў, а за выручаныя грошы купіў новую дуду.

Трэба заўважыць, дуда - сакральны інструмент, які пераносіць нас у глыбіню стагоддзяў і якому надавалася вялікая пашана. Гэта адзін з найважнейшых музычных інструментаў, пры дапамозе якога нашы продкі наладжвалі кантакт з патаемнымі сіламі прыроды падчас абрадаў каляндарна-земляробчага і сямейна - побытавага кола.

Дык вось гэтая гісторыя з дудой у жыцці вясковай грамады і адбывалася на імправізаваным кірмашы (сцэне), дзе кожны з 60-ці ўдзельнікаў выдатна спраўляўся са сваёй роллю. Дзеці танчылі і круціліся ля самавара, дзе атрымалі ласункі; блазен і мядзведзь адзін перад адным забаўлялі і дзяцей і дарослых; былі тут і дзед з бабай, і пані, і жыд, і цыганка... Моладзь па-заліхвацку танчыла, музыкі "рэзалі" на ўсе лады. А інструменты - колавая ліра, жалейка, скрыпка, басэтля, цымбалы ж зроблены майстрам па ўзоры аўтэнтычных інструментаў, на якіх ігралі музыкі ў мінулым. Занялі свае пачэснае месца і традыцыйныя вырабы народных умельцаў: івянецкая кераміка, маляваныя местачковыя дываны, лазовыя кошыкі, саламяныя капелюшы... - адным словам, усё, што можна было ўбачыць на любым кірмашы. А над усім - песня "Дуда", якую спя-валі па чарзе то дзеці, то моладзь, то старэйшыя, і з вуснаў кожнай групы спевакоў яна гучала паразнаму, кожны надаваў свой сэнс той падзеі, пра якую гаварылася ў гэтым народным творы.

На першы погляд дзея, якая адбываецца на сцэне, - шоў у народным стылі. Але насамрэч, як прызналася сама аўтар пастаноўкі Лізавета Пятроўская, у паказе закладзена глыбокая думка, а менавіта: вёска - гэта вытокі нашага жыцця, дзе фарміраваліся лепшыя якасці беларуса - шчодрасць і гасціннасць, працавітасць і гатоўнасць прыйсці на дапамогу, талент і кемлівасць, гумар і заліхвацкасць..., і дарагі наш скарб - класіка, і вусная народная творчасць - таксама адтуль.

Мне падумалася: больш бы такіх вось пастановак, якія цешаць вока яркім прадстаўленнем, улагоджваюць слых народнымі спевамі і аўтэнтычнай музыкай і падштурхоўваюць на роздум аб спрадвечным...

Застаецца толькі пажадаць калектывам і яе кіраўніку і надалей поспеху ў распрацоўцы новых цікавых канцэртных нумароў, якія так патрэбны ў наш тлумны і складаны час.

***Людвіка Таўгень**, старшыня Валожынскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Полацкі гістарычна-культурны музей-запаведнік запрашае на канферэнцыю

**21-22 лістапада 2019 года навукова-даследчая і асветніцкая ўстанова культуры "Нацыянальны Полацкі гістарычна-культурны музей-запаведнік" правядзе V Міжнародную навуковую канферэнцыю: "Сімяон Полацкі: светапогляд, грамадска-палітычная і літаратурная дзейнасць", прысвечаную 390-годдзю з дня народзінаў Сімяона Полацкага і 25-годдзю бібліятэкі Сімяона Полацкага.**

***Наш кар.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 11.11.2019 г. у 17.00. Замова № 2790.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.